# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ




*Раз зайшоў у магазін,*
*Каб прыбарахліцца.*
*На прылаўках — анічога,*
*Усё на прадаўшчыцах.*




№ 6 (217) 12—18 лютага 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.


## Друкарня набыла машыну

**БАРАНАВІЧЫ.** Даўно такога буйнага набытку не мела мясцовая друкарня. З дапамогай Дзяржаўнага камітэта па друку і аблвыканкама куплена друкарская ратацыйная афсетная машына, зробленая ў акцыянерным аб'яднанні "Рыбінскпаліграфмаш" Яраслаўскай вобласці.

Друкарская машына новага пакалення мае поўнае электроннае кіраванне, яе канструкцыя больш простая і таннейшая ў параўнанні з заходнімі аналагамі. Прыкметна ўзрасце якасць прадукцыі, паколькі новае паліграфічнае абсталяванне дазваляе выкарыстоўваць аднachасова два колеры. Перыядычныя выданні і кніжная прадукцыя, што будуць аддрукаваны на новай машыне, атрымаюцца прывабнейшымі.

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК.*

## Юбілейная вечарына

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Адзінаму дзіцячаму дому сямейнага тыпу ў Брэсцкай вобласці споўнілася дзесяць гадоў. Ён знаходзіцца ў в. Халап'я Івацэвіцкага раёна. Маці-выхавальніца гэтага дома Алена Васільеўна Пытляк. Наша газета не аднойчы пісала пра гэтую вялікую сям'ю, пра яе дзяцей, пра клопаты і праблемы.

З нагоды юбілею ў Івацэвіцкім ГДК адбылася вечарына. У ёй прынялі ўдзел кіраўнікі раёна, госці з Брэста, мясцовыя шэфы. Былі шчырыя віншаванні, падзякі, падарункі. Урачыстая вечарына — гэта яшчэ адзін светлы і хвалюючы дзень у вялікай сям'і А. В. Пытляк.

*Канстанцін ДЗЯМЧУК.*

## У Дзень Святога Валянціна

*Маэстра, грайце*
*вальс натхнення,*
*Зіме нехарактэрны*
*вальс!*
*Так, мы не тое*
*пакаленне,*
*Але мы*
*зразумелі вас...*
*З часоў кахання*
*Пенелопы...*
*Зусім яшчэ з пачатку*
*дзён*
*Нам, людзям, трэба*
*проста словы,*
*Дзе шчырасць,*
*вернасць і любоў.*
*У дзень Святога*
*Валянціна*
*Прыемна, нават доўгі*
*час,*
*Чакаць паштоўку*
*з мілым імем*
*І думаць: "Я кахаю*
*Вас".*
*Маэстра, грайце*
*вальс*
*натхнення,*
*Зіме нехарактэрны*
*вальс,*
*Каб дзень пачуццяў*
*нараджэння*
*Не стаў днём слёз*
*і крыўдных фраз.*

*Вольга САВУЦІНА.*
*Івацэвіцкі раён.*



*РЭАЛІІ ДНЯ*

## ПРА ДАБРАБЫТ І ДАМАШНЮЮ МОВУ

Апублікаваны асноўныя дадзеныя перапісу насельніцтва Івацэвіцкага раёна, які адбыўся ў пачатку мінулага года. Спатрэбілася амаль год, каб у наш камп'ютэрны век абнародаваць першыя вынікі праведзенай работы. Як бы так ні было, а звесткі паявіліся. Ці адрозніваюцца яны ад лічбаў перапісу іншых раёнаў Брэстчыны?

Скажам прама, што адрозненні ёсць. За апошнія дзесяць гадоў насельніцтва раёна павялічылася на 2900 чалавек. Калі не ўнікаць у сутнасць гэтай лічбы, то можна сцвярджаць, што гэта вынік паляпшэння жыццёвага ўзроўню народа, яго дабрабыту. Але ж гэта няпраўда. Большасць жыхароў раёна жыве вельмі бедна. У чым жа тады справа?

Да нас па-ранейшаму гоніць людзей чарнобыльская бяда. Едуць з забруджаных радыенуклідамі тэрыторый у Івацэвіцкі раён. Едуць беларусы на сваю радзіму з Казахстана і іншых сярэднеазіяцкіх краін. У кожнага свае прычыны, свая бяда.

А які ж натуральны прырост насельніцтва? На жаль, яго проста няма. Так, летась нарадзілася 650 немаўлят, а памёрла 1050 жыхароў. Звыш 400 чалавек — на столькі за адзін год зменшылася насельніцтва раёна. Для параўнання скажам, што знікла насельніцтва такой вёскі як Коланск.


**(Заканчэнне на 2-й стар.).**


## Кахаць — аддаваць

*Гісторыю з'яўлення свята закаханых ведаюць, напэўна, ужо многія. Святы Валянцін быў епіскапам, якога кінулі ў турму і пакаралі смерцю. Але ён паспеў пасла́ць сляпой дачцэ свайго турэмшчыка запіску са словамі пра пачуццё, якое ўзнікла паміж імі. Святкаванне Дня Святога Валянціна было вызначана ў дзень язычніцкага свята, калі маладыя рымлянкі кідалі ў кубак упрыгожаныя любоўныя пасланні закаханым юнакам.*

*У нашых сучаснікаў, удзельнікаў апытання, мы вырашылі даведацца, які сэнс яны ўкладаюць у словы "Я кахаю цябе". Што маецца на ўвазе пад гэтым выразам і што значыць кахаць?*



**СВЯТЛАНА:** Мне здаецца, што гэта проста словы. Кожны кахае пасвойму і ўкладае нешта сваё ў каханне і ў словы "Я цябе кахаю". Трэба паважаць адно аднаго, дапамагаць. Я свайго мужа падтрымліваю маральна. А ў каханне веру, як і ўсе, напэўна.



**ІВАН СЯРГЕЕВІЧ:** Па-першае, гэтыя словы гаворацца толькі любімаму чалавеку, а каб іх сказаць, трэба ўсё ж добра ведаць чалавека. І верыць яму. Як я буду кахаць, калі ажанюся? Буду дапамагаць у хатніх клопатах жонцы, а калі будзем працаваць у адной галіне, то і па рабоце акажу дапамогу.



**СОФ'Я ВОСІПАЎНА:** Нават і не ведаю... Я ніколі не казала гэтых слоў, старалася дапамагчы неяк, работу якую зрабіць. А ад маладых хіба дачакаешся якой дапамогі? Ды і ці ўмеюць яны кахаць зараз? Мала, лічу, такіх.



**АЛЯКСАНДР МІКАЛАЕВІЧ:** Гэта ўжо гледзячы па абставінах... Хто не зусім цвярозы, то скажа і нават не задумаецца — абы свайго дамагчыся. А сур'ёзны чалавек шчыры незалежна ад абставін. Каханне — гэта павага. Дапамагаю жонцы. Не давяраю ёй мыць посуд, прыношу прадукты. Раней гэтага не было. Ці то таму, што быў маладым і не разумеў, што трэба дапамога, ці то часу не хапала. А зараз я ўжо на пенсіі і хачу аблегчыць яе жыццё.

XXX

*Вось якія адказы мы атрымалі ў жыхароў Івацэвіч. Варта ніколі не забываць, што па Біблії кахаць — значыць аддаваць, прычым не толькі ў матэрыяльным сэнсе, а і ў духоўным. Калі мы забываем аб гэтым, то атрымліваецца як у адной даўняй песні:*

*Я і не знала , што за бяда —*
*Выйшла маладзенька замуж,*
*Пазнала, што за бяда —*
*Позна легці, рана ўстаці,*
*Яшчэ і дзяціна мала,*
*А мілы ж ляжа —*
*Ды, мне піва прынясі, кажа.*

*Біблію моладзь чытае рэдка, ды і аб духоўнасці мала гаворым. А любіць трэба вучыцца яшчэ з дзяцінства. Каб не адна цялесная блізкасць цікавіла, а каб чалавеку хацелася палегчыць жыццё другому чалавеку, зрабіць прыемнае яго душы. Каб кожны дзень для закаханых быў сапраўдным святам, а словы кахання заўсёды пацвярджаліся справамі.*

*У народ хадзілі Наталля КАПЫЦІЧ і Аляксей ГАНЧУК.*

## Дан загад яму на захад...

**БЯРОЗА.** Сустрэў на днях свайго былога аднакласніка, які працуе вадзіцелем КамАЗа ў Дзяржынскай аграпрамтэхніцы на Мiншчыне. Ужо некалькі разоў ён прыязджаў у Бярозаўскі раён — возіць сянаж, каб пракарміць жывёлу тамтэйшых калгасаў. Адтуль жа прывезлі ў Пескі прыкладна 50 цялят на зімоўку.

У Белаазёрску загрузілі цюкаваным сенам прыкладна шэсць вагонаў. Адрас прызначэння той жа — Усходняя Беларусь.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## Вымовамі кароў не накорміш

**ПРУЖАНЫ.** Справы ў малочнай жывёлагадоўлі раёна, як, дарэчы, і ў іншых рэгіёнах вобласці, пагаршаюцца з кожным днём. Летась, напрыклад, у гаспадарках Пружаншчыны аб'ём вытворчасці малака знізіўся на 14 працэнтаў, а надоі ад кожнай каровы зменшыліся на 355 кілаграмаў. І сёлета становішча не паляпшаецца, а, наадварот, пагаршаецца. Асноўная прычына гэтага — дрэннае кармленне жывёлы. Яна стаіць паўгалодная. Напрыклад, у калгасе "Новая крыніца" сутачны рацыён для кароў складае не больш трох кармавых адзінак на адну галаву. Адкуль жа быць малаку?

Каб паправіць становішча ў малочнай галіне, Пружанскі райвыканкам вынес на сваё пасяджэнне гэта пытанне. Як вынік, за дрэнны стан спраў у жывёлагадоўлі галоўныя заатэхнікі і ветэрынарныя ўрачы дзевяці гаспадарак (калгасы "Новая крыніца", "Дружба", "Зеляневічы", імя Чапаева і інш.) атрымалі вымовы і пазбаўлены 30 працэнтаў дадатковай аплаты за мінулы год.

Не будуць калгасныя каровы сытымі ад гэтых вымоў. Ім давай сена ды сянаж.

*Алесь САШЫН.*

## Пасмяёмся разам з...

*мастаком-педагогам Ружанскай студыі мастацтваў Юрасём Малышэўскім:*



— Толькі што ў завулку ў мяне забралі залаты гадзіннік, — скардзіцца міліцыянеру прахожы.

— Дык чаму ж вы мяне не паклікалі на дапамогу? Я тут даўно хаджу.

— Я баяўся раскрыць рот — у мяне залатыя зубы.

## НАДВОР'Е Ў ВЫХАДНЫЯ ДНІ



Пераменная воблачнасць, месцамі туман. Вецер слабы, пераменны, 1—4 м/с. Тэмпература паветра ўдзень да 5 градусаў цяпла, уначы 0 — -5.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Зноў выраслі тарыфы на электраэнергію

***На 30 працэнтаў выраслі тарыфы на электраэнергію для насельніцтва.***

Кошт адной кілават-гадзіны электраэнергіі для насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з газавымі плітамі, павялічана з 1 рубля 40 капеек да 1 рубля 80 капеек, для насельніцтва гарадоў, якое жыве ў дамах з электраплітамі, а таксама для жыхароў сельскай мясцовасці — з 1 рубля да 1 рубля 30 капеек.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў (на 18 працэнтаў) адбылося 1 снежня 1999 года.

## Страйк прыпыняецца

***Агульнарэспубліканскі страйк прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках Беларусі, з 12 лютага будзе прыпынены.***

Такое рашэнне прыняў рэспубліканскі страйкам прыватных прадпрымальнікаў пасля вывучэння цяперашняга становішча.

Як гаворыцца ў заяве старшыні страйкама Валерыя Леванеўскага, "улада прызнала свае памылкі і заявіла, што яна гатова распачаць перамовы ў выпадку, калі Свабодныя прафсаюзы прадпрымальнікаў прыпыняць акцыі пратэсту". "Мы праяўляем добрую волю і паказваем уладзе, што мы гатовы пайсці на дадзены крок дзеля вырашэння канфліктнай сітуацыі па сутнасці. Мы прадастаўляем уладам апошні крэдыт даверу і спадзяёмся, што чыноўнікі ўсіх узроўняў атрымаюць урокі з дадзенага страйку і спыняць рабаванне сваіх грамадзян", — падкрэслівае В. Леванеўскі.

Апрача таго, рэспубліканскі страйкам заклікае ўлады ўвесці ў дзеянне даўно абяцаны дэкрэт аб адмене ПДВ для прадпрымальнікаў, якія выплачваюць цвёрдую стаўку падатку (па словах міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый А. Сазонава, страйк быў адзінай падставай для непадпісання дэкрэта). Калі ПДВ будзе адменены да 20 лютага, прадпрымальнікі атрымаюць магчымасць не плаціць гэты падатак за студзень.

## "Гучныя" справы застаюцца "цёмнымі"

***8 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка распавёў журналістам аб ходзе расследавання Пракуратурай Беларусі найбольш "гучных" спраў.***

У прыватнасці, А. Бажэлка паведаміў, што цяпер заканчваецца правядзенне фонаскапічнай экспертызы радыёінтэрв'ю, якія дала заходнім радыёстанцыям Тамара Віннікава. На ягоную думку, толькі па выніках экспертызы можна будзе зрабіць канчатковую выснову аб тым, ці сапраўды гэта Т. Віннікава.

Гаворачы аб расследаванні крымінальнай справы ў дачыненні былога рэктара Гомельскага медыцынскага інстытута Юрыя Бандажэўскага, А. Бажэлка паведаміў, што следства не знайшло буйной сумы грошай, якія, як лічаць праваахоўныя органы, той атрымаў у якасці хабару за садзейнічанне ў паступленні некаторых абітурыентаў у інстытут. Апрача таго, адзін з заяўнікаў на Ю. Бандажэўскага адмовіўся ад сваіх паказанняў. Тым не менш генеральны пракурор лічыць, што ў інстытуце "даўно склалася заганная практыка прыёму абітурыентаў у ВНУ" і рашэнне аб адхіленні Ю. Бандажэўскага ад займаемай пасады было правільным.

Што тычыцца расследавання прычын трагедыі, што здарылася 30 траўня 1999 года ў пераходзе станцыі метро "Няміга", то, паводле сцвярджэння А. Бажэлкі, бліжэйшым часам вынікі расследавання, а гэта 10 тамоў, будуць разглядацца ў рэспубліканскай пракуратуры.

Пасля чаго будзе прынята рашэнне аб далейшай працы над гэтай справай.

## Больш святаў харошых і розных

***Новым указам Аляксандр Лукашэнка ўнёс дапаўненні і змяненні ў свой указ ад 28 сакавіка 1998 года "Аб дзяржаўных святах, святочных днях і памятных датах у Рэспубліцы Беларусь".***

У краіне ўводзіцца шэраг дадатковых прафесійных святаў. Так, 19 студзеня будзе адзначацца Дзень ратавальніка, 30 чэрвеня — Дзень эканаміста, 23 жніўня — Дзень работнікаў дзяржаўнай статыстыкі, 6 кастрычніка — Дзень архівіста і 14 кастрычніка — Дзень стандартызацыі.

У адпаведнасці з указам, прафесійнае свята работнікаў гандлю аддзелена ад свята работнікаў бытавога абслугоўвання насельніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі (чацвёртая нядзеля сакавіка) і перанесена на апошнюю нядзелю ліпеня.

Акрамя гэтага, уводзяцца Дні спажыўца і аховы навакольнага асяроддзя, якія будуць адзначацца адпаведна 15 сакавіка і 5 чэрвеня.

*(БелаПАН).*

ВАШЕ ПИСЬМО

## Молчание ягнят по афганскому сценарию

15 февраля, в День памяти воинов-интернационалистов, наши мужья и сыновья, служившие и воевавшие в Афганистане, словно подвластные некому гипнозу извне, прибудут в Ивацевичи на встречу с властью района. Но не для совместной плодотворной работы, где бы можно было узреть явный прогресс и сотрудничество, а для того, чтобы проглотить очередную таблетку годового срока действия под названием обещаловка.

В зале, где с протянутой к власти рукой заседают жертвы кровавой бессмыслицы, можно уловить, скажем так, тень недоверия к тем людям, которые сидят напротив, за длинным столом "заказов". По их маскам, простите, лицам можно прочесть уже готовые обещания: "Дадим, выпишем, построим, приходите за добавкой".

Мужики! Ветераны, потерявшие своё здоровье в чужих, никчемных войнах! Сделайте из этого вывод, не бросайтесь на данную ими кремлёвскую "таблетку", чтобы не стать для них управляемыми козлёночками, ибо вам, вопреки обещаниям, давно сделано "обрезание". Обрезание по-славянски. Многим из вас отменяются инвалидные группы, с неприкрытым отвращением вам выписывают дешевенькое лекарство, награждают дешевеньким одеколоном и литературой сказочного содержания.

Раньше вам завидовали, мол, такой молодой, а льготы имеет, удостоверение ветерана, как у деда.

Но это давно позади. А впереди — что-то такое нехорошее: отторжение от полноценного медицинского обслуживания, отсутствие бензина, равнодушие и непонимание окружающих. Осталось только бесплатный проезд "обрезать" и возникнет к нам одно сожаление. Эта тема бесконечна, но давайте, мужики, снимем с себя эти розовые очки и поймем, что спасение утопающих — дело рук самих утопающих.

Приближается весна, и дай Бог, чтобы ваши, опалённые войной души, согрело солнце стабильности и уверенности в завтрашнем дне. Здоровья вам на всю жизнь!

***Олег КОСТЮШКО (фамилия изменена), бывший афганец. г. Ивацевичи.***

ЮБІЛЕІ

## ВІНШУЕМ!



Нашаму земляку, ураджэнцу вёскі Быцень, Віктару Міхайлавічу Грынчыку 15 лютага спаўняецца 70 гадоў.

Закончыўшы ў 1949 годзе Быценскую СШ, В. М. Грынчык паступіў у Мінскі педагагічны інстытут. З дыпломам настаўніка роднай мовы і літаратуры Васіль Міхайлавіч прыехаў на працу ў Мілавідскую СШ Баранавіцкага раёна. Ён быў нязменным намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце і настаўнікам беларускай мовы і літаратуры.

В. М. Грынчык — педагог па прызванню. Яго шматгранная педагагічная дзейнасць высока адзначана. Віктар Міхайлавіч — выдатнік народнай адукацыі, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі імя Н. К. Крупскай. Зараз ветэран працы на пенсіі, жыве ў г. Белаазёрску.

Землякі і калегі па працы шчыра віншуюць Віктара Міхайлавіча Грынчыка з юбілеем, жадаюць яму моцнага здароўя і шчасця.

РЭАЛІІ ДНЯ

## ПРА ДАБРАБЫТ І ДАМАШНЮЮ МОВУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Адсюль вынікаюць сумныя вывады: змяншаецца колькасць шлюбаў, павялічваецца колькасць разводаў. Проста кажучы, мы вымiраем. Такое становішча можа быць толькі ў зусім адсталай ва ўсіх адносінах краіне, дзе сям'я не можа дазволіць сабе мець больш аднаго ці двух дзяцей. Такой краінай, як ні крыўдна, сёння з'яўляецца наша Беларусь, дзе клопаты аб дабрабыце простага працаўніка ператварыліся ў пустую балбатню.

А колькі ж нас, карэнных беларусаў, у раёне? Аказваецца, 64814 чалавек. Гэта на 3248 жыхароў больш, чым дзесяць гадоў таму. Праўда, цікава? На фоне пастаяннага змяншэння насельніцтва, як ні дзіўна расце колькасць беларусаў. Яна складае 92,7 працэнта — на 0,8 працэнта больш, чым у 1989 годзе. Як паказаў перапіс, 93 працэнты насельніцтва раёна размаўляе на роднай мове толькі дома. Вось такі моўны патрыятызм нашых карэнных беларусаў.

Што ж прымушае нашых жыхароў гаварыць па-беларуску толькі ў сваёй хаце?

Усё, як кажуць, пачынаецца са школы. Беларускую мову ў гарадах, напрыклад, большасць школьнікаў вывучаюць, на жаль, як замежную. Абрусенне нашага падрастаючага пакалення працягваецца, хаця ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана аб роўнасці дзвюх дзяржаўных моў — рускай і беларускай. Нават вынікі перапісу пададзены на расійскай мове, як у добрыя савецкія часы. Гэта, трэба лічыць, абраза 93 працэнтаў жыхароў раёна, якія, хоць і дома, але размаўляюць на роднай мове.

Лічбы перапісу — гэта наша жыццё, наша сённяшняя рэчаіснасць, суровая і далёка не радасная.

***Міхаіл ДЗМІТРУК. г. Івацэвічы.***

КРЫМІНАЛ

## Дзе ты, дэзерцір?

**БАРАНАВІЧЫ.** У ваеннай пракуратуры застаецца нераскрытай крымінальная справа, узбуджаная ў красавіку мінулага года ў адносінах да радавога вайсковай часці 48686 Анатоля Янковіча. Салдат абвінавачваецца па артыкуле 235 п. 2 — самавольнае пакіданне часці.

Усе мерапрыемствы міліцыі і ваенных у пошуку ўцекача не прынеслі ніякага выніку: салдата знайсці не ўдалося. Ніяк не адрэагаваў дэзерцір на акцыю Беларускай ваеннай пракуратуры, якая звярнулася да ўсіх уцекачоў вярнуцца на ранейшае месца службы, паабяцаўшы ім прашчэнне.

Цяпер Баранавіцкая ваенная пракуратура звярнулася праз мясцовыя газеты з просьбай да грамадзян дапамагчы ёй адшукаць дэзерціра.

## Бывай, зброя!

**ПРУЖАНЫ.** Для жыхара райцэнтра сустрэча з міліцыяй у пяць гадзін раніцы на вуліцы Горына-Каляды была кароткай і нечаканай кепскай. Салдаты правапарадку затрымалі яго легкавушку і знайшлі ў ёй 200 грамаў трацілу і 10 баявых патронаў да пісталета Макарава.

Гэтая знаходка — існая пусцяковіна ў параўнанні з тым, што выявілена аператыўнікамі ў вёсцы Чадзель. Мясцовы дамарослы "баявік" застаўся без асабістай паляўнічай стрэльбы "бярдан" і аднаствольнага самаробнага абрэза. Цяпер гаспадар зброі расказвае следчаму, да якіх баёў і з якім праціўнікам ён рыхтаваўся.

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 10.02.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1600—2300 | 1000—1700 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 1100 | 1300 | 1200 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—850 | 660—900 | 550—750 | 660—750 |
| Яйкі | 450—500 | 400—540 | 500 | 440—450 |
| Малако (3 л) | 280 | 280 | 280 | 260 |
| Тварог | — | 400 | 320 | 360 |
| Масла сметанк. | 1000 | 1500—1800 | 1200 | 1200 |
| Цыбуля рэпч. | 250 | 200—220 | 190—200 | 180 |
| Капуста | 80 | 70—90 | 80—100 | 90 |
| Бульба | — | 100 | 70—80 | 85 |
| Морква | 100 | 250 | 130—150 | 120 |
| Буракі стал. | — | 60—100 | 70—80 | 80 |
| Яблыкі | 400—500 | 440—540 | 350—450 | 550—650 |
| Грушы | 850 | 1300 | 990 | 900 |
| Вінаград | — | 1300—2800 | — | — |
| Грэцкія арэхі | 900 | 850 | 900 | 720 |
| Часнок (1 шт.) | 60—100 | 100—120 | 70 | 50—70 |
| Лімоны | 1000 | 1200 | 990 | 1200 |
| Апельсіны | 700 | 880 | 790 | 1000 |
| Бананы | 800 | 880 | 790 | 1000 |
| Мандарыны | 900 | 900 | 900 | 900 |
| Грэчка | 650 | 700 | 650 | 660 |
| Макар. вырабы | 270—350 | 300—350 | 280—350 | 250—270 |
| Рыс | 450 | 460—560 | 440—480 | 460—480 |
| Манныя крупы | — | 330 | 380 | 350 |
| Проса | 250 | 300 | 340 | 300 |
| Цукар | 260 | 260—280 | 270 | 270—280 |
| Мёд | 2.400 | 2.400 | 1—3 тыс. | 2300 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 860 | 880 | 880 | 900 | 860 | 880 | 860 | 880 |
| 1 дойчмарка | 430 | 440 | 440 | 450 | 430 | 440 | 430 | 440 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 32 | 30 | 33 | 30 | 32 | 30 | 32 |

● ПРАШУ СЛОВА

# ТАКІЯ ГОРКІЯ ЎСПАМІНЫ

— Ведаеш, мама, хутка наш тата будзе з намі, — сказала мне мая малодшая дачушка.

— Чаму ты так думаеш? — спытала я.

— Таму што я зноў такая ж хворая, як тады. У мяне ізноў тэмпература пад 40, і я адчуваю сябе гэтак жа, як і тады — тры гады таму ў 1997 годзе. І ведаеш, мама, мне здаецца, што я адчуваю той самы пах у нашым доме.

— Няўжо ў нас у доме змяніўся пах?

— Так, мама, вельмі змяніўся. Таму, што ўжо тры гады тут няма нашага таты. Няма паху яго адэкалону, цыгарэт, няма паху тых кветак, якія ён любіў нам дарыць, няма яго ўсмешкі і "прыколаў", якія ён умеў рабіць і гаварыць.

Я нічога не змагла адказаць на гэта, таму што нейкі камяк падступіў да горла і я проста выйшла з пакоя. І зноў успаміны. Горкія і гордыя...

Кастрычнік 1995 года. Насельніцтва Івацэвіцкага раёна вылучыла У. А. Кудзінава кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Уладам гэта было не даспадобы. І пачался брудная вайна супраць Кудзінава і яго сям'і. Мяне пачалі выжываць з райвыканкама, дзе я працавала, а на фірму мужа звалілася праверка-аблава ў колькасці 120 чалавек. Як яны хацелі знайсці кампрамат супраць Кудзінава! Паказаць людзям: "Глядзіце, які ён жулік, а вы яго — у дэпутаты". Калі гэта не ўдалося, таму што Уладзімір Кудзінаў жыў і працаваў сумленна, па закону, то ў ход пайшла другая зброя: ананімныя тэлефонныя званкі (нават наччу) з пагрозамі: калі не здымеш кандыдатуру, то будзе дрэнна табе і сям'і... Пачалі пускаць плёткі, што Кудзінаў папаў у аварыю, што яго збілі да смерці нейкія бандыты і г. д.

Прадпрыемства У. Кудзінава ўладам удалося знішчыць, а вось зламаць волю самога гаспадара ім не ўдалося. І ён становіцца дэпутатам ВС РБ XIII склікання. 87% галасоў выбаршчыкаў атрымаў ён на выбарах. У парламенце пачаў працаваць у фракцыі "Грамадзянскае дзеянне", апазіцыйнай прэзідэнту. Ён ужо тады разумеў, што эканамічная палітыка, якую праводзіць урад, прывядзе да краху нашу краіну. Цяпер гэта відавочна ўсім.

Потым быў лістапад 1996 года. Рэферэндум, які зараз называюць дзяржаўным пераваротам. Уладзімір Кудзінаў, не вагаючыся, адзін з першых падпісвае заяву аб імпічменце прэзідэнту Лукашэнку. Нягледзячы на вялікі ціск, што аказваюць на яго ўлады (з ім у тую перадрэферэндумную ноч "працавалі" П. Пракаповіч, В. Кучынскі, С. Пісарэвіч, Ф. Клюкач, які прыехаў з Брэсцкага аблвыканкама, і яшчэ нехта) ён свой подпіс не здымае. І ўжо тады вядомы В. Кучынскі сказаў яму:

— Ну што ж, калі мне прэзідэнт загадае зашчоўкнуць на цябе наручнікі, я гэта зраблю.

І зрабіў. Надзелі наручнікі. 4 лютага 1997 года. Я як цяпер бачу Валодзю, калі яго вядуць, як вялікага забойцу-рэцыдывіста, чалавек дзесяць у доўгіх чорных паліто. А ён ідзе і ўсміхаецца. Мне стала жудасна, і іменна ў той момант я зразумела, у які чорны этап уступіла мая краіна.

Прыгавор — сем гадоў за спробу дачы хабару. Што мяне здзівіла і абурыла на судзе, то гэта тое, што суддзя В. В. Шэлепень прыходзіў у залу, як на сцэну. І столькі было ў яго абыякавасці, быццам, ён вырашае не лёс чалавека, прычым нявіннага чалавека, а лёс нейкай там казяўкі. І толькі потым я зразумела, што лёс Кудзінава быў вырашаны яшчэ да суда. І яшчэ была вялікая памылка ў падборы адваката. І. М. Папковіч аказаўся вельмі няўдалым адвакатам, і Кудзінаў, па сутнасці, абараняў сам сябе.

Цяпер Уладзіміру Кудзінаву прапануюць пісаць прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта. Сёння напішаш — заўтра будзеш дома. Так, цяжка ў нявolі. Цяжка сядзець у турме нават за здзейсненае злачынства, а яшчэ цяжэй, калі ты ні ў чым не вінаваты, калі цябе яшчэ ўціскаюць, пераследуюць. Там, у турме, хочуць стварыць вакуум псіхалагічны вакол цябе. Але ж яшчэ цяжэй быць падманутым у чарговы раз. Я заўсёды памятаю, што людзям гэтай улады верыць нельга ні ў якім разе. Добра памятаю словы Уладзіміра Канаплёва, сябра нашага прэзідэнта:

— Чаму ж ваш муж не пайшоў з намі працаваць? А мы з ім працавалі, моцна працавалі. Нам таксама патрэбны разумныя мужыкі. Але, калі вы не будзеце звяртацца да міжнароднай супольнасці і прыцягваць увагу незалежнай прэсы, то мы патрымаем яго месяцы тры-чатыры за тое, што ён пайшоў супраць прэзідэнта. І адпусцім. У адваротным выпадку вы пасадзіце яго ў турму.

І я паверыла, маўчала і прасіла маўчаць усіх. Позна зразумела — нельга верыць гэтым людзям.

Так, за спробу дачы хабару — сем гадоў. У той час, калі за забойства, за згвалтаванне даюць меней.

Як ты спіш, суддзя В. В. Шэлепень?

*Зоя КУДЗІНАВА.*
*г. Івацэвічы.*

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ИРИНА, Телец. Музыку люблю самую разную, а в последнее время больше всего слушаю Земфиру.*

*Мой кумир — немецкий философ Ницше. Люблю танцевать, готовить тоже.*

*Мужчины нравятся умные, честные, добрые. Внешность не главное. Внешне мужчина должен быть чуть красивее обезьяны.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*АЛЕГ, па гараскопу — Дзева, хобі — спартзала, рыбалка, куміры — Арнольд Шварцэнэггер, Roland Charlock. Люблю сучасную дыскамузыку "Дэма", "Вірус".*

*Колер вачэй ці валасоў, на мой погляд, не самыя галоўныя якасці дзяўчыны. Галоўнае — спалучэнне прыгажосці, розуму і характару.*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Запазычанасць ці не?

*— Атрымаў на днях квіток аб аплаце за камунальныя паслугі і здзівіўся, што напісалі літаральна так: просім аплаціць запазычанасць за студзень да 15 лютага і кошт паслуг за люты. Я заўсёды плаціў за прайшоўшы месяц, і ніхто не лічыў гэта запазычанасцю, а камунальнікі зараз настойваюць плаціць наперад. Хто з нас мае рацыю?*

*Міхаіл Леанідавіч,*
*г. Івацэвічы.*

Каб адказаць на запытанне нашага чытача, мы звярнуліся да "Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь", падпісанага прэзідэнтам 22 сакавіка 1999 года. У артыкуле 65-м сказана: "**Наймальнік жылога памяшкання абавязаны ўносіць плату за карыстанне жылым памяшканнем і камунальныя паслугі за кожны мінулы месяц не пазней пятнаццатага чысла месяца, што ідзе следам за ім**".

Такім чынам, паважаны Міхаіл Леанідавіч, квіткі камунальнікаў аб нейкай запазычанасці жыльцоў з'яўляюцца ўласнай адсябяцінай, выдумкай івацэвіцкіх камунальнікаў.

Другая справа, што той жа камунальнай службе патрэбна перадаплата, таму што ім самім прыходзіцца аплачваць амаль за ўсё наперад. Тады неабходна не пужаць кватэранаймальнікаў запазычанасцю, а звяртацца да іх з просьбай аб аплаце за паслугі наперад у сувязі з такімі патрэбамі. Тады, думаецца, будзе іншае разуменне ў аплаце за кватэры і камунальныя паслугі.

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



*Горячо и сердечно поздравляем с 25-летием со дня рождения дорогого, любимого сына, мужа и брата Сергея КИРИЛЮКА из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, душевной теплоты, семейного благополучия.*

*Сегодня день рожденья твой,*
*Дай Бог тебе отличного здоровья,*
*Пускай в семье живёт покой,*
*Согретый счастьем, радостью, любовью.*
*Желаем, чтоб люди ценили тебя*
*И мы чтоб тобою гордились,*
*Чтоб вся твоя жизнь, как желанный букет,*
*Любовью и счастьем светилась.*

*Мама, папа, жена Лариса, брат Олег с женой Ириной и дочерью Лолитой.*



*Давнюю свою подругу Регину Михайловну ПУКАЛО из г. Берёзы поздравляю с днём рождения. Будь счастливой и любимой. Пусть твоя дальнейшая жизнь будет светлой и плодотворной. Вместе с поздравлением прими мои наилучшие пожелания добра, благополучия, долголетия.*

*Анна.*

❀ ❀ ❀

*От всего сердца поздравляем Любовь Васильевну ГРИБ из г. Коссово с днём рождения.*

*Прими самые добрые пожелания здоровья, радости, уюта, доброты, хорошего настроения. Желаем в семье любви и согласия, от людей — добра и уважения, от детей — нежности и тепла.*

*Желаем счастья большого-большого,*
*Желаем здоровья всегда молодого,*
*Желаем удачи, помимо успеха,*
*А если морщинок — то только от смеха.*
*Чтоб ты не встречала*
*в жизни ненастья,*
*А если же слёзы,*
*то только от счастья.*
*Мы хотим, чтобы горе и несчастье*
*Обошли твою жизнь стороной.*
*Чтобы ты никогда не узнала,*
*Что такое быть в жизни одной.*
*Пусть обойдут тебя невзгоды,*
*Тревоги, ложь и клевета.*
*Пусть радость, счастье и здоровье*
*Тебе сопутствуют всегда!*

*С уважением и любовью — муж, дочери Ольга и Ирина, зять Дмитрий, родители, сваха Лидия Федотовна и Руслан.*



❀ ❀ ❀

*Рады поздравить с 60-летним юбилеем дорогую, бесценную мамочку и бабушку Софью Михайловну КОНОВАЛОВУ из д. Доманово Ивацевичского района. Мы очень любим тебя, добрую и заботливую. Спасибо за то, что ты есть у нас.*

*Пусть эта*
*замечательная дата*
*В душе твоей*
*оставит добрый след.*
*Желаем мы тебе всего,*
*чем жизнь богата,*
*Здоровья, счастья,*
*мира, долгих лет.*

*Сын Миша и его семья.*

(Працяг. Пачатак у № 5).

## 2. Усе мы родам з дзяцінства

Гэта выслоўе ведае, бадай, кожны з нас, і кожны, вядома, па-свойму асэнсоўвае яго, прыпамінаючы сваё маленства. У адных яно, як прызнаюцца самі дарослыя, нейкае светлае, запамінальнае, у другіх — не вельмі. Але ж усе зыходзяцца на тым, што, як бы там ні было, а дзяцінства — пара адметная, уражлівая і непаўторная.

Калі ж гаварыць пра Мікалая Васільевіча Букшту, то ён сам, наколькі я ведаю, у сваіх размовах



*Мікалай Букшта (фота 50-х гадоў).*

вельмі рэдка вяртаўся да мінулага, але ў думках калі-нікалі і згадвалася ўсё перажытае. Назваць той час сапраўдным дзяцінствам Коля ніколі не адважваўся. Былі, праўда, асобныя гадзіны і дні паслаблення, калі сустракаўся са сваімі равеснікамі і аддаваўся гульням і забавам. Гэта ў большасці бывала летам на рэчцы Грыўдзе. Тут купаліся, лавілі рыбу. Тут Букшта пазнаёміўся і пасябраваў з Міцем Міхнюком з вёскі Руда, што па другі бок Грыўды, воддаль ад Азярца, і таксама раскінулася на беразе гэтай рэчкі.

У тыя перадваенныя і ваенныя гады мала хто з вясковых хлапчукоў сядзеў з вудай ля вады. З самаробнай сеткай-браднікам Коля і Міця рабілі "набегі" на рыбныя затокі. Серабрыстыя плоткі, калючыя з блакітным адлівам акуні, спрытныя шэра-зеленаватыя шчупакі пападалі ў торбу хлапчукоў.

А аднойчы, цягнучы браднік да берага, адчулі, што ён зачапіўся за нейкую карчагу. Коля нырнуў, адчапіў сетку і пацягнулі далей. Але знянацку трапіў у нейкую яму і на некалькі секунд знік з вачэй Міці. Ад нечаканасці Міця раскрыў рот, каб закрычаць, як тут жа над вадой з'явілася Коліна галава. Ён кінуўся да сябра, але той ужо сам выкараскаўся з ямы і ўжо шукаў згублены канец брадніка.

Вылезшы на бераг, хлопцы вырашылі закончыць рыбалку. Дрэнным прыкметай падалося ім гэтае знікненне пад вадой. Ужо ў іншыя дні былі больш асцярожнымі, калі "асвойвалі" новыя рыбныя мясціны на Грыўдзе.

Помнілі хлопцы (і зараз помніць Дзмітрый Андрэевіч Міхнюк), як на рэчку ў час летняга адпачынку прыходзіў Колін бацька. Васіля Міхайлавіча паважалі ў вёсцы. Ён любіў пагаварыць, паразважаць, даць добрую параду.

"Трэба трымацца зямлі, — гаварыў Васіль Міхайлавіч. — Яна корміць чалавека. Усё ад яе — і наша здароўе, і наша сіла. З рэчкі, сынкі, сытыя не будзеце. А зямелька — усяму галава".

Расказваў Васіль Міхайлавіч і розныя гісторыі, якія здараюцца на Грыўдзе. Тут і вадзяныя, і русалкі па начах выходзяць на бераг, тут і тапельцы крычаць з вады, каб іх ратавалі.

Пра гэтую гісторыю хлопцы доўга ўспаміналі, нават пабойваліся ісці вечарам на Грыўду купацца. Васіль Міхайлавіч расказаў наступнае: "Было гэта даўно. Мой дзед яшчэ апавядаў. Хадзіў у нашых краях трохі прыдуркаваты пажылы жабрак. Накульгваў на правую нагу. З кійком і торбай на плячах, ён ішоў ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, прасіў паесці. Жабрака баяліся, асабліва маладыя дзяўчаты. Часта іх спыняў, спрабаваў абняць. А аднойчы прыйшоў на Грыўду. Там купаліся дзеці. Жабрак кінуўся ў ваду, хацеў спаймаць дзяўчынку, а сам плаваць не ўмеў, трапіў на глыбокае месца і ўтапіўся. Ратаваць не было каму, бо дзеці, спужаўшыся незнаёмца, пабеглі да хаты.

З той пары ля гэтай ямы на Грыўдзе ніхто не купаецца. Баяцца, а раптам той жабрак пад вадой схопіць за нагу і пацягне на дно..."

А пра ваду ў Васіля Міхайлавіча былі свае разважанні. Ля самай Грыўды і ў ваколіцах ёсць нямала крыніц. Вада ў іх чыстая, як людская сляза. І гаючая.

"Умывайцеся гэтай вадой ранкамі, каб думкі былі светлыя, — раіў ён. — І піце яе, калі хочацца, каб раслі хутчэй і сілы набіраліся".



*Міця Міхнюк (фота 50-х гадоў).*

У сям'і Васіля Міхайлавіча і Софіі Іванаўны Букштаў расло двое дзяцей — дачка Оля і сын Коля. Мелі невялікі надзел зямлі, гаспадарку, з чаго ўласна і карміліся. Пры палякаж дзеці вучыліся мала. Трэба было плаціць. А пры Саветах жылі надоўга, а потым грымнула вайна. Да вайны Коля трохі вучыўся ў школе, якую потым спалілі партызаны. А ў ваенныя гады калі-нікалі наведваў школу, якая знаходзілася ў хаце Міхаіла Дудзіка. Можна ўявіць, якая гэта была вучоба, калі не хапала ні падручнікаў, ні паперы. Але лепш хоць такое навучанне, чым без яго. Хлопчык ужо мог пісаць і чытаць.

Горкай была яго вучоба, як і ўсё тагачаснае жыццё. У нястачы, у цяжкай працы, у барацьбе за выжыванне праходзілі дні не толькі дарослых, але і дзяцей. Апошнім, бадай, было горш, чым дарослым, бо часта на іх кволыя плечы клаліся клопаты дарослых.

Захварэла на тыф Коліна сястра Оля. Завезлі яе канём у Івацэвічы, там лячылі. Праз некалькі дзён хвароба падкасіла і Колю. Лячэнне было цяжкім і марудным. Не хапала лекаў. Даставалі ўсё, што маглі. Клопаты ўсіх родных не прайшлі дарма: Оля і Коля ачунялі.

Яшчэ адна бяда нечакана напаткала сям'ю Букштаў. Бацька часта хварэў, але ніхто не думаў благога. Прыгнаўшы кароў з пашы, Оля заскочыла ў хату.

— Тато, о, тато! — паклікала яна.

Але ніхто не падаваў голасу. Тады дзяўчынка падбегла да ложка, дзе ляжаў бацька. Адна рука яго звесілася з ложка амаль да падлогі. Оля ўсё зразумела. Закрычала і загаласіла. Прыбегла маці, якая корпалася ў агародзе. Пачулі крык суседзі, родзічы. Хутка ў хаце было поўна людзей.

У апошні шлях Васіля Міхайлавіча праводзіла ўся вёска. Коля вельмі перажываў смерць бацькі. Некалькі дзён ён хадзіў на бацькаву магілу. Яму не верылася, што ўжо няма роднага чалавека, з кім корпаўся ў хляве і на гародзе, хадзіў у лес і на рэчку, ва ўсялякай справе быў побач. І добры, і строгі. "Навошта ж так, Божа? — сам пра сябе пытаў Коля. — Няўжо мой тата прагнявіў цябе, што ты наслаў такую вялікую кару на нашу сям'ю? Як жа нам без яго жыць?"

У хлопчыка капалі слёзы. Ён не крычаў і не галасіў. Пераносіў усё ў сваёй душы. Днямі маўчаў, слова з яго не выцягнеш. Маці бачыла, як сын перажывае страту. Бачыла, але чымсьці суцешыць не магла, а старалася прыдумаць нейкі занятак сыну, каб адцягнуць яго ад думак, што апанавалі. Не часта ўдавалася.

На вачах у маці Коля ўсё больш сталеў, рабіўся не па гадах сур'ёзным. Відаць, жыццёвыя нягоды рабілі яго такім.

А праз год новае гора напаткала сям'ю — памерла маці. Не трэба казаць, колькі перажылі Оля і Мікалай. Дзіцячыя сэрцы вельмі ўспрымальныя да такіх сямейных трагедый. На іх і сапраўды застаюцца рубцы. На ўсё жыццё. Як напамінак аб перажытым.



# ГЕРОЙ З АЗЯРЦА

Старэйшай у сям'і засталася Оля. Брат і сястра разам упраўляліся па гаспадарцы. Праўда, дзецісіраты не засталіся без апекі родзічаў. Да ўнукаў часова перайшла жыць баба Марыся. Яе таксама напаткала вялікае гора — сын, як пазней стала вядома, загінуў на фронце. Яна не магла заставацца ў адзіноце, дый сіроткам патрэбна і дапамога, і парада.

Здавалася б, што шмат перажыўшы і супакоіўшыся, можна неяк уладкоўваць сваё жыццё. Ужо ішоў другі пасляваенны год. Цяжкі, галодны і непрадказальны... Бядагора чамусьці ніяк не мінала сям'ю Букштаў. Як нейкае праклянцце, зноў няшчасце навалілася на сіратаў.



*Оля Букшта (фота 50-х гадоў).*

Зранку (а гэта было ў маі 1946 года) Оля папрасіла ў аднаго з азярчан каня, каб у агародзе пасадзіць бульбу. Было цёпла, свяціла сонца. Адкрылі ражу з насеннай бульбай, якая знаходзілася тут жа на падворку. За плугам хадзіў Коля. Бліжэй да апоўдня ўзмацніўся паўночны вецер. Думалася, што ён прынясе з сабой дождж, якога з нецярпеннем чакалі. Але ж ён прынёс зусім іншае.

Як расказваюць азярчане, у іх вёсцы жыло многа бежанцаў. Хтосьці з іх у крайняй хаце гнаў самагонку, напаліў моцна печку і іменна там узнікла загаранне. Іншыя вяскоўцы сцвярджаюць, што пажар пачаўся з-за таго, што дзеці, гуляючы ў хляве, падпалілі яго. Вецер падхопліваў полымя і нёс яго далей. Саламяныя стрэхі хат успыхвалі як порах. Першай заўважыла пажар Оля і пабегла ў хату, за ёй — Коля. Трэба было ратаваць што-колечы з хатніх пажыткаў, пакуль агонь не дабраўся да іхняй сядзібы.

Расказвае Настасся Іванаўна Дылюк, цётка Олі і Мікалая, а яшчэ Коліна хросная маці, жыхарка вёскі Падстарынь:

— Сапраўды, гэта здарылася ў маі. Зранку са сваім мужам Саняй мы вывозілі канём гной на свой агарод. Як пачала гарэць крайняя хата ў Азярцы, убачылі адразу. Трывога, канешне, была, але ведалі, што нашы сваякі жывуць у сярэдзіне вёскі і былі ўпэўнены, што агонь да іхніх сядзібаў не дабярэцца. Але праз некаторы час мы сур'ёзна ўстрывожыліся. Вецер пагнаў агонь да сярэдзіны сяла. Рашылі неадкладна дабірацца туды. Саня выпраг кабылу з воза і верхам паскакаў у Азярцо, а я пабегла ў Азярцо напрасткі...

Калі Саня прыскакаў у вёску, Оля і Мікалай вынасілі з хаты ўсё, што маглі разам падняць і панесці. Усе дзяружкі і посцілкі, намачыўшы ў цэбры, што стаяў ля калодзежа, зацягнулі і паклалі на саламяны дах хаты. Такім чынам меркавалі засцерагчы салому ад загарання.

Скрыню з жытам з сенцаў цягнулі ўсе разам, але праз парог не здолелі перасунуць. Дапамагчы не было каму, бо кожная сям'я сама ратавала сваё дабро. Перавалілі скрыню праз парог і высыпалі на зямлю, трохі прыкапалі. Першым загарэўся хлеў, потым — хата. Не дапамаглі і намочаныя дзяружкі, што ляжалі на даху. Усё шугала, ляцела, трашчала, зліваліся з крыкам і галашэннем азярчан, якія былі бяссільныя супраць вогненнай стыхіі.

У той майскі дзень згарэла паўсяла, засталіся хаты, накрытыя чарапіцай. А ў Букштаў-сіротаў — ні кала, ні двара. А жыць трэба было: яшчэ ж такія маладыя і ўсё наперадзе.

Сваякі не пакінулі Олю і Мікалая сам-насам з бядой. Оля перайшла жыць да дзядзькі Грышы. Яго хата стаяла насупраць праз вуліцу і ўцалела пад чарапічным дахам. Коля некаторы час жыў у цёткі Насці ў Падстарыні, потым пасяліўся ў дзядзькі Грышы. Хлопчык вельмі любіў спаць на печы.

Радня Букштаў-пагарэльцаў і ў першую чаргу цётка Насця з сям'ёй і дзядзька Грыша пачалі думаць аб тым, каб пабудаваць хату Олі і Мікалаю. Тым больш, што мясцовыя ўлады выдзелілі пагарэльцам будаўнічы лес.

У знаёмых падстарынцаў папрасілі каня (гэта Ліза Макарэвіч не паскупілася), і Саня (Аляксандр Дылюк), муж цёткі Насці, разам з Колем і дзядзькам Грышам за зіму вывезлі з лесу тыя бярвенні. Вясной распачалося будаўніцтва. Нанялі брыгаду цесляроў з ліку бежанцаў. Выручыла тое, што якраз у той год урадзіла жыта, бо будаўнікі бралі плату зернем. Да зімы зруб ужо стаяў на месцы згарэўшай хаты. Гэта каштавала 16 пудоў жыта. Дах зрабілі саламяным, бо на чарапіцу патрэбны былі вялікія грошы. А дзе яны ў сірат? Цётка Насця, Оля і Коля хадзілі з хаты ў хату ў Падстарыні і прасілі жытніх кулёў для даху. Так і назбіралі. Свет, як кажуць, не без добрых людзей. Саня зрабіў дзверы, іншую сталярку. Дзядзька Грыша змайстраваў печ, хоць і са старой цэглы. Дарэчы, пра цэглу. У цёткі Насці стаяла на сядзібе трухлявая хата. У ёй раскідалі печ і навыбіралі больш трывалых цаглін. Ужо праз лета Оля і Мікалай сталі гаспадарцы у новай хаце. Праўда, яшчэ без падлогі і без самай неабходнай мэблі.

У далейшым сірочым лёсе Олі і Мікалая пачыналася новая старонка. Якой яна будзе? Ніхто, канешне, не ведаў. Але ж сястра і брат цвёрда верылі, што страшныя кашмары іх гаротнага дзяцінства не павінны паўтарыцца.



*Цячэ Грыўда-рэчка.*

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Івацэвіцкі раён.**

**(Працяг будзе).**

